ГОД V СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 1 (40)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ

Л. Старавіцкі — Справа сьветагляду ........ 1
Ю.Л. Панаж — Як выглядаў Хрыстос? ........ 3
а. Л. Гарошка — Хрысьціянства ў сьвятле навейшых навуковых адкрыцьцяў ........ 5
А. Дзедзінка — Кіно (Заканчэньне) ........ 7
Рудольф Уч — Нябачны судзьдзя ........ 9
А. Жменя — Сірата пад крыжам ........ 10
Я. Гладкі — Народная песьня на В. Пост ........ 11
а. Л. Гарошка — Бібліяграфія ........ 11
На рэлігійнай ніве ........ 13
Беларуская хроніка ........ 14
Атрыманыя часапісы і кніжкі ........ *

« SUR LA VOIE DIVINE »

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN

Année V. N° 1(40) Janvier-Février 1951

51, rue des Sts-Pères - PARIS - VI<sup></sup>

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 50 фр. | 300 фр. |
| Англія | 1 ш. 5 пэн. | 7 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 1 ш. 10 пэн. | 9 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 45 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. |
| Нямеччына | 70 пф. | 4 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:
**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].**

У АНГЛІІ:
**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:
**Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.**

У АЎСТРАЛІІ:
**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE, Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:
**Mr. Vostrykau Michel, 8, Place Hoover, LOUVAIN.**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.

Зьвяртацца на драсы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Maran House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# Магчымасьці здабыцьця асьветы

Управа Беларускага Акадэмічнага аб'еднаньня атрымала дазвол на арганізацыю бурсы для беларускіх дзяцей школьнага веку (хлапцоў і дзяўчат). Дзеці будуць вучыцца ў бэльгійскіх пачаткавых і сярэдніх ці фаховых школах і дадаткова будуць мець лекцыі беларускае мовы, гісторыі, гэаграфіі і музыкі.

Утрыманьне ў бурсе і школьная асьвета забясьпечваецца бэльгійскімі ўстановамі.

Па сканчэньні сярэдняе школы прадбачаюцца стыпэндыі для унівэрсытэцкіх студыяў.

У с і х зацікаўленых просіцца высылаць заявы да ЦБАА. Да заявы далучыць наступныя весткі:

1. Імя і прозьвішча кандыдата. 2. Дата нараджаньня. 3. Прафэсыя і сучасны занятак бацькоў. 4. Асьвета кандыдата. 5. Ці вучыцца цяпер і дзе? 6. Якія мовы ведае? 7. Ці змог-бы паехаць у Лювэн (за згодаю бацькоў ці апякуноў)? 8. У якім кірунку хацеў-бы вучыцца пасьля атрыманьня сярэдняе асьветы? 9. Дакладны адрас.

Пісаць на адрас:

Centre des Organisations Universitaires Bielorussiennes à l'Etranger, 8, **Place Hoover,** LOUVAIN, Belgique.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год V. СТУДЗЕНЬ — ЛЮТЫ 1951 № 1 (40).

# Справа сьветагляду

Аддаўна ведама, што некаторыя часапісныя артыкулы маюць толькі невялікі лік чытачоў. Звычайна гэткімі артыкуламі ёсьць тыя, якія вымагаюць напружаньня ўвагі падчас чытаньня, а пасьля прачытаньня накладаюць на сумленьне чытача некаторыя абавязкі. Самазразумела, што прымаць абавязкі, асабліва калі яны нялёгкія і вымагаюць розных ахвяраў, не належыць да прыемнасьцяў, дык ня дзіва, што шмат хто перагортвае гэткія «цяжкія» артыкулы, прачытаўшы толькі іхны загаловак.

Аднак ёсьць пытаньні, аб якіх трэба пісаць, не зважаючы на ніякае незацікаўленьне, калі гэтага вымагае важнасьць справы. Такою справаю ёсьць справа сьветагляду.

На старонках «Божым шляхам» гэтае пытаньне закранался ўжо ня раз і ў розных формах, але ягонае аграмаднае значэньне з аднаго боку і вышэйуспомненае незацікаўленьне чытачоў з другога боку, а да таго яшчэ вялікая актуальнасьць гэтага пытаньня так у міжнародным жыцьці, як і ў радох нашае эміграцыі — вымагаюць прыглянуцца да яго больш уважна.

Да гэтага часу на старонках беларускае эміграцыйнае прэсы замала прысьвячалася ўвагі справе сьветагляду. Часам нават ствараласа ўражэньне, быццам некаторыя газэты і часапісы аб сьветаглядзе нічога знаць і ведаць ня хочуць. Нават можна было стрэнуць такія дзівацтвы, як ідэалягічныя артыкулы бяз ніякае ідэалёгіі, або заклікі і адозвы з ідэалягічнаю паражнечаю.

Замест ідэалёгіі і сьветагляду сталася модным спэкуляваць імёнамі бацькаўшчыны і народу, бо гэта яшчэ найбольш чулае мейсца ў душы кожнага эмігранта, асабліва палітычнага. Але ад такога падыходу да справы замест карысьці была толькі шкода бо бязідэйнае пераліваньне з пустога ў парожнае імёнаў народу і бацькаўшчыны толькі прафануе патрыятычнае пачуцьцё, а ідэалягічная паражнеча толькі паглыбляецца.

Бо якую-ж мае вартасьць гутарка аб патрыятызьме, калі нехта дамагаецца ад іншых любіць бацькаўшчыну і выказваць гэтую любоў нат праз вялікія ахвяры, але ня ўмее адказаць на простае пытаньне: чаму мы павінны так рабіць?

Той, хто захоўвае Божыя прыказаньні, на гэткае пытаньне адкажа бяз хістаньня, што акрамя ўроджанага пачуцьця любові да ўсяго роднага любоў бацькаўшчыны загадана Богам адначасна з любоўю бацькоў у чацьвёртым Божым прыказаньні, але што адкажа той, хто гэтых прыказаньняў ня прызнае? Пэўна-ж ён так-жа нешта будзе гаварыць і спасылацца на ўроджаныя пачуцьці, але ўсёй ягонай гутарцы грош цана, бо бяз Божых прыказаньняў любоў да бацькаўшчыны будзе зводзіцца да жывёліннага ўзроўня, а з гэткім патрыятызмам далёка не заедзеш; ён хутка выродзіцца або ў шавінізм, або выпятрэе зусім і дасьць матэрыял да таго тыпу сусьветных бадзякаў, аб якіх Максім Багдановіч гаворыць у «Эміграцкай песьні»:

Ёсьць на сьвеце такія бадзякі,
Што ня вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сьцягі,
Караблёў акіянскага порта.

Тады калі шавінізм гатоў скінуць усе сьвятасьці з аўтароў у сьвятынях і паставіць там бацькаўшчыну, і ў ахвяры для ея прыносіць нават Бога, перавяртаючы гэткім чынам увесь адвечны лад, дык такія бадзякі ўпадаюць у другую крайнасьць і ня маюць агулам ніякіх патрыятычных сьвятасьцяў. Сьведамасьць аб выкананьні нейкіх абавязкаў, а тымбольш аб ахвярах для народу, для бацькаўшчыны ў гэткіх людзей ня існуе. Таксама далёкія ад ахвяраў і абавязкаў тыя, якія ня маюць ніякіх вышэйшых ідэяў, а на аўтарох хацелі-б паставіць сваё «я» і каб увесь сьвет служыў яму. Недалёка адстаюць ад іх тыя, што думаюць толькі аб кілішках, балях, абыймах і вясёлай кампаніі.

Агулам людзі бяз вышэйшае ідэі, калі што выконваюць для агульна-грамадзкае справы, дык толькі пад прымусам; іхняе жыцьцё стае звычайным мадзеньнем. Янка Купала ў сваім «Прароку» глыбока ўзрушаючы малюе прыгнобленых людзей, якія згубілі «усе жаданьні яснаты» і з душою і скурай счэзьлі ў здабываньні марных дачасных дастаткаў — яны нават на такі палкі заклік пра-

рока, у якога із зраніцаў «біў вялікіх праўд сьвяты агонь» замест зразуменьня і послуху так адказалі:

А людзі глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
— Па колькі-ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

Гэта ёсьць сумны, але праўдзівы абраз людзей, ня маючых ідэйнага сьветагляду. Ім грамадзкія справы ёсьць нечым незразумелым і аб сваёй будучыні яны дбаць ня могуць. Нават рэлігію яны расцэньваюць з гледзішча дачаснае карысьці.

Звычайна сьветагляд выпрабляецца ў маладосьці падчас школьнага ўзгадаваньня. Але ў мінулым стагодзьдзі пад уплывам вольнадумства школы імкнуліся даць нейкі падман сьветагляду, абаснаваны на матэрыялізьме, а ў сапраўднасьці толькі стараліся зруйнаваць рэлігійны сьветагляд, які моладзь атрымоўвала ад пабожных бацькоў і ад Царквы. У выніку гэткага ўзгадаваньня людзі выходзілі са школы з духоваю паражнечаю і ставаліся рассаднікамі абыякавасьці. У дваццатым веку духовая паражнеча, бязмэтнасьць і агулам нястача сьветагляду ў людзей сталася на толькі масавым зьявішчам, што яго ахрысьцілі хваробаю часу.

Цяпер гэтую паражнечу вельмі спрытна выкарыстоўваюць камунізм і бальшавізм, запаўняючы яе сваімі ідэямі, падбураючымі да выкананьня руйнацкіх плянаў.

Гэткі стан рэчаў адчыніў вочы неаднаму перш абыякаваму да рэлігіі, бо стала ясным, што ўтрата рэлігійнага сьветагляду вядзе да шмат горшых насьледкаў, як гэтага можна было спадзявацца. Пачуліся спачатку нясьмелыя, а потым штораз галасьнейшыя асьцерагаючыя галасы.

Нядаўна амэрыканскі вучоны К. Юнг апублікаваў у адным з паважных амэрыканскіх часапісаў, што ў ЗША ёсьць 8 мільёнаў псыхічна хворых, і што колькасьць іх хутка ўзрастае. Але найважнейшае, што Юнг сьцьвярджае, дык гэта ёсьць факт, што: «прычынаю гэтага сумнага зьявішча ня ёсьць матэрыяльная галеча, але духовы крызіс». Разважаючы глыбей над гэтым зьявішчам, вучоны кажа: «вялікі процант гэтых няшчасных цярпіць таму, што не знаходзяць сэнсу жыцьця, або мучацца над праблемамі, на якія філязофія не дала ім адказу». А прычына гэтага зьявішча найчасьцей такая: «кожны пераважна хварэе дзеля таго, што ён заграціў тое, што жывыя рэлігіі ўсіх часоў давалі сваім вернікам і кожны датуль ня будзе сапраўды аздароўлены, пакуль зноў ня знойдзе веру». Так кажа вучоны псыхалёг на аснове свае 35-гадовае практыкі.

Таму, што гэтая заява паходзіць з аўтарытэтных кругоў, дык яна мае шмат больнае значэньне, як асабістая думка выдатнага сучаснага вучонага, да таго яна ёсьць вынікам доўгагадовага досьледу. Для нас гэтая заява тым важная, што ясна выказвае ня толькі сучасны духовы крызіс, але адначасна і крызіс безрэлігійных сьветагляду. На гэты мамэнт варта зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо-ж былі раней і ёсьць цяпер розныя безрэлігійныя філязафічныя сыстэмы і сьветагляды. Аб гэтых іншых сьветаглядах часам шмат разводзяцца іхныя прыхільнікі. Мы аб іх скажам зусім коратка. Толькі за час існаваньня хрысьціянства паўставалі і зьнікалі, як грыбы па даждох, розныя філязафічныя сыстэмы і няма сумніву, што татакая-ж доля чакае яшчэ і тыя безрэлігійныя сьветагляды, якія існуюць сёньня, бо пачатак іх сягае толькі мінулага стагодзьдзя.

Распаўсюдзіўся безрэлігійны, ці лепш кажучы бязбожны сьветагляд у некаторых краінах таму, што там былі стварыліся для яго спрыяючыя перадумовы. Гэткаю перадумоваю ёсьць пашырэньне абыякавасьці да рэлігіі між уплывовымі дзеячамі ў грамадзтве, бо звычайна «ад галавы рыба сьмярдзіць».

Што нясе з сабою бязбожная ідэалёгія, беларуская эміграцыя ведае задобра, каб яшчэ трэба было аб гэтым гаварыць, але варта прыпомніць, што і абыякавасьць да рэлігіі ня ёсьць лепшаю, бо-ж ад яе пачынаецца ўсё ліха. Яна ёсьць быццам васеньні мароз, што зьнішчае найпрыгажэйшыя кветкі. Вядомы італьянскі змагар-рэвалюцыянэр Джюзэппэ Мацціні (1805-1872) з такім дакорам зьвяртаўся да абыякавых: «З кожным поступам рэлігійнае веры можна паказаць вам адначасны поступ у гісторыі людзтва. А вы з сваею абыякавасьцю да рэлігійных спраў не пакажаце нічога іншага, як анархію. Вы заўсёды маглі толькі нішчыць, а не будаваць». Ангельскі «зялезны князь» Вэлінгтон (1769-1852) казаў аб гэтым карацей, але больш ясна: «Выхавай людзей без рэлігіі, а зробіш з іх толькі хітрых чартоў».

Супраць гэткіх цьверджаньняў можна заўважыць, што не належыць да вынятку, калі бязбожнікі выконваюць вялікую будуючую працу і робяць нават найбольшыя ахвяры. Гэта факт, якога запярэчыць нельга, але якраз гэты факт дае лішні доказ, што людзі з вялікай ідэяй здольныя да вялікіх учынкаў, бо якраз сучасныя бязбожнікі-камуністы ўбіваюць у галовы сваім прыхільнікам розныя фальшывыя ідэі ў велічных формах, якраз як падмен рэлігіі і нават у форме вельмі зблізжанай да рэлігіі. (Параўняй артыкул «Маннівая вера». ў Нр. 16-17 с. 3). Толькі дзякуючы гэтай ідэі глумачацца здабыткі камуністаў. Дэлегат Лібану ў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў др. Карло Малік так схарактэрызаваў гэтае зьявішча на паседжаньні Палітычнае Камісіі дня 15-XII-1950 г.: «Чалавек, хоць-бы як ён быў слабы і бедны, можа стаць надзвычайна магутным і багатым, калі толькі мае ідэю, за якую гатоў умер-

ці, а тым самым, для якое гатоў жыць. Камунізм забясьпечыўся ў такую ідэю. Затое некамуністычны сьвет не адчувае сэнсу свае місіі. Дзеля гэтага і паўстае няроўнае інтэлектуальнае змаганьне між некамуністычным сьветаглядам і камуністычным сьветам і яно будзе заўсёды выклікаць цяжкае напяцьце ў розумах людзей, апанаваных шырокараспаўсюджанаю хваробаю бязмэтнасьці». Да гэтага аднак неабходна дадаць, што камуністычныя ідэі — гэта фальшывыя ідэі, а тым самым і прамінаючыя. Яны падобны да таго бліскучага ідала з залатою галавою, медным чэравам, але з гліняными нагамі, якога бачыў у сьне бабілёнскі цар Навуходаносар. Гэты ідал разваліўся ў друзы ад удару каменя, як потым развалілася і самое-ж бабілёнскае царства.

Да гэтага часу беларускі народ заўсёды ўважаў сябе прыналежным да хрысьціянскае культуры і бараніў яе коштам вялікіх ахвяраў. Абыякавасьць зьявілася параўнаўча нядаўна і ахапіла толькі некаторыя кругі, цяпер-жа нават незалежна ад таго, што варожаць сусьветныя падзеі, нам неабходна ўключыцца ў рады актыўных абаронцаў ня толькі свае культуры і самабытнасьці, але агулам хрысьціянскае справы і свае будучыні. Але ці-ж магчыма выканаць гэтае заданьне без вялікае ідэі і без магутнага рэлігійнага сьветагляду? На гэтакае пытаньне нядаўна даў агульны адказ Флёрыдзкі архіб. П. Гурлей у сваім калядным казаньні да амэрыканскага народу: «Мы ня можам дзейна абараняць хрысьціянскае справы, калі самі ня ёсьць хрысьціянамі ў практыцы; мы ня можам асягнуць Божага міру, калі ня верым у Бога і калі ня ёсьць людзьмі добрае волі... матэрыялізму нельга перамагчы слабою, хісткаю і нерашучаю духовасьцю». Сапраўды цяжка знайсьці больш трапнага адказу на вышэйпастаўленае пытаньне, які-б у кароткіх словах выказаў сучасную пякучую патрэбу хрысьціянскага сьветагляду ў практычным жыцьці. Гэты адказ адносіцца да ўсяго сьвету, а ў тым ліку і да нас, беларускае эміграцыі. Ясна аднак, што перш чым здабыць хрысьціянскі сьветагляд, перадусім трэба быць гатовым вызбыцца абыякавасьці.

Справядлівасьць вымагае азначыць, як сапраўды паняшаючы знак часу, што ў радох беларускае эміграцыі і між яе адказных кіраўнікоў ёсьць штораз часьцейшыя выявы зразуменьня важнасьці гэтае справы. Даў-бы Бог, как гэтыя выявы знайшлі якнайбольшае пашырэньне.

Да вышэйвыказаных разважаньняў можна было-б яшчэ дадаць доказы з надпрыроднага парадку, але таму, што яны прамаўляюць да тых, якія ўжо маюць рэлігійны сьветагляд дык, аб іх тут не ўспамінаем.

На заканчэньне варта зацеміць, што справа ўмацаваньня і пашырэньня рэлігійнага сьвятагляду ня ёсьць справаю толькі духавенства, але вымагае супрацоўніцтва ўсіх людзей добрае волі.

**Л. Старавіцкі.**

---

# Як выглядаў Хрыстос?

Каму з вернікаў ня цікава ведаць, як выглядаў Хрыстос падчас свайго туземнага жыцьця? Такое жаданьне ня ёсьць пустою цікавасьцю, але самазразумелым імкненьнем шчырае хрысьціянскае душы пазнаць лепш нават вонкава свайго Збавіцеля-Хрыста.

У старых часох і ў сярэднявеччу дзякуючы гэткаму жаданьню было зьявілася шмат так званых «нерукатворных» абразоў, або «вэронікаў», якія быццам мелі прадстаўляць сапраўднае аблічча Хрыста, але хутка выявілася, што гэта былі пераважна падробленыя творы прыкрытыя (дзеля гэтага іх называлі потым апокрыфамі) пабожнымі назовамі.

Між гэтымі апокрыфічнымі мастацкімі творамі аж да канца мінулага стагодзьдзя знаходзілася Турынская плашчаніца — так называлася гое пахавальнае палатно, ў якое мела быць акручана цела Хрыста падчас палажэньня ў гроб. Але ад 1898 году адносіны багасловаў і сьвецкіх вучоных да Турынскае плашчаніцы зьмяняюцца; зацікаўленьне гэтым своеасаблівым дакумантам пачало ўзрастаць так, што сёньня ўжо паўстала вялікая літаратура адносна гэтае цікавае памяткі. А летась падчас Сьвятога Году ў травені месяцы адбыўся ў Рыме адумысны Міжнародны Кангрэс навукоўцаў: архэалёгаў, гісторыкаў, мэдыкаў і інш., якія займаліся Турынскаю плашчаніцаю на працягу цэлага тыдня; ужо гэты сам факт сьведчыць аб тым значэньні, якое прыдаецца цяпер гэтаму дакуманту.

Чаму толькі ад канца мінулага стагодзьдзя ўзрасло зацікаўленьне Турынскаю плашчаніцаю? Бо яе гісторыя даволі доўгая і часта зусім перарывацца, заблытваецца, а тым самым выклікае самазразумелую засьцярогу да свае праўдзівасьці. Трэба памятаць, што ў сярэднявеччу пашана да сьвятых рэліквіяў часта прыймала ненармальны характар, а гэта заахвочвала неадказных адзінак да фальшаваньня рэліквіяў. Больш вартасныя рэліквіі часта рабаваліся і краліся — вось тады і пахавальнае палатно Хрыста сталася ахвяраю гэтых надужыцьцяў.

З гісторыі ня ведама калі і якім чынам яно трапіла з Ерузаліму ў Канстантынопаль, але ўжо ад 436 г. яно знайходзіцца там разам з іншымі рэліквіямі ў Влахэрнскай царкве аж да часу другога Крыжовага паходу. Пасьля 1204 г. яно зьнікае

з Влахернскае царквы і па нейкім часе зьяўляецца ў Францыі — перш у Бэзансон, потым у Лірэй. Адтуль паравозіцца ў Бэльгію (Шімэй), а потым вяртаецца назад у Францыю — Шамбэры. Тут у 1532 г. падчас пажару растопленае серабро рэлікв'яра выпаліла краі плашчаніцы, але хутка манашкі клярысы з Шамбэры залапілі адметнаю тканінаю выпаленыя мейсцы. З Шамбэры ў 1578 г. плашчаніца пераносіцца ў Турын (Італія), дзе і астаецца да сёньня ў капліцы ля катэдры сьв. Яна.

Гэткі гістарычны шлях з прагалінамі і нястачаю суправаджаючых дакумантаў аж да часу зьяўленьня плашчаніцы ў Лірэй і абумоўлівае тое, што да яе некаторыя адносяцца з засьцярогаю.



Але Турынская плашчаніца есьць такім дакумантам, які мае паважныя доказы вераготнасьці сам у сабе. Дзеля гэтага і пачалі ёю паважна цікавіцца, калі сталася магчымым дасьледаваць гэтыя доказы ўсемі сучаснымі навуковымі спосабамі.

На першы пагляд Турынская плашчаніца гэта звычайнае льняное палотнішча 1,10 м. шырыні і 4,36 м. даўжыні, тканае ў чатыры нічальніцы з узорам дробнае ёлачкі. Якраз гэткія тканіны былі даволі распаўсюджаныя за часоў Хрыста ў Сірыі і адтуль прывозіліся ў Палестыну. Час і мейсца вырабу палотнішча сьцьверджана археолёгічнымі, мікраскапічнымі і нават хэмічнымі досьледамі. На гэтым палотнішчы відаць розныя паджарыя плямы навокал выпаленых мейсц, навокал іх відаць кругавыя рагі ад мыцьця, а пасярэдзіне палотнішча відаць зарысы двох людзкіх постацяў высокіх 1,81 м., зьбліжаных да сябе галовамі — гэта ёсьць адпячатак аднаго цела бачнага сьпераду і ззаду.

Калі ў 1898 г. Сэкондо Піё першы раз сфатаграфаваў плашчаніцу, дык ягонаму зьдзіўленьню ня было межаў, бо на фатаграфічнай клішы замест звычайнага нэгатыву быў пазытыў, гэта значыць, там, дзе на звычайных клішах з фатаграфіямі людзкога цела ёсьць ясныя мейсцы, на гэтай клішы было цёмна і наадварот. Значыць абраз на плашчаніцы ёсьць нэгатывам, толькі сьляды ад крыві і выпаленыя мейсцы ёсьць нармальнымі пазытывамі і давалі нэгатыў на клішы. Для вучоных адразу зьявілася загадка, бо ў прыродзе нідзе няма нэгатываў.

Больш таго, абраз, які атрымаўся на здымцы, быў шмат ясьнейшы, як на самай плашчаніцы і меў выразныя сьляды даслоўна усіх мукаў Хрыста. Пасьля гэтага аб Турынскай плашчаніцы голасна загаварылі ўва ўсім сьвеце, а вучоныя розных галінаў навукі пачалі дасьледаваць яе з найбольшаю магчымаю дакладнасьцю. Чэскі лекар д-р. Гынэк усё жыцьцё прысьвяціў гэтым досьледам; шмат працавалі над яе досьледамі францускія хірургі: д-р. П. Бара і д-р. И. Віньён, амэрыканець Вюншэль, італьянскі праф. Ю. Кордзілія і шмат іншых — у выніку гэтых досьледаў назьбіралася шмат вельмі паважных доказаў на карысьць яе вераготнасьці.

Вялікую прыслугу для дакладнейшых досьледаў мелі фатаграфіі, якія ў 1931 г. зрабіў Дж. Энрі пад кантролем двох камісіяў: італьянскае і францускае. Тады была дакладна сфатаграфана ўся плашчаніца і паасобныя яе часткі ў натуральную велічыню, а частку з ваколіц рук нават у сяміразовым павялічэньні.

На гэтых фотаздымках сталася магчымым дасьледаваць з вялікаю дакладнасьцю анатомію цела, раны рук, ног правага боку, правага плячука пашкоджанага падчас нясеньня крыжа, а нават парахаваць ранкі на чале Хрыста ад цярновага вянка і пісягі ад бічаваньня на сьпіне.

Лекары аднагалосна сьцьвердзілі што анатомія цела на плашчаніцы ёсьць беззаганная.

Але што прыцягвае асаблівую ўвагу кожнага, хто аглядае плашчаніцу, дык гэта ёсьць абліччa — гэта абліччa мёртвага цела, але з яго зьзяе такая веліч, такая павага, што для іх апісаньня няма слоў. Гэта сапраўды неапісальная веліч. Яе ня сьціраюць усе сьляды мукі, якія выразна відаць на абліччы — раны на чале з крывацечамі, надломаны храшч пераносься, прыпухшая правая шчака ў ваколіцы сківіцы. Колькі мас-

такоў ужо пробавала адмаляваць гэтае аблічча — ніводная проба не ўдалася; скульптары мелі крыху большае шчасьце. Нават недаверкі і вольнадумцы становяцца ў аслупеньні перад загадкавым абліччам на Турынскай плашчаніцы. Праф. Парыскае Сарбоны д-р. І. Дэляж пасьля дакладных студыяў заявіў: «Гэта Хрыстос якога адпячатак ёсьць на плашчаніцы! Бо калі-б гэта ня быў Хрыстос, дык хто-ж? Якісьці злачынец, што памёр падобнаю сьмерцю? Але як-жа тады выясьніць тую веліч, якую бачыцца на абліччы?» Тыя, што маюць засьцярогі адносна праўдзівасьці Турынскае плашчаніцы, на гэтае пытаньне ня маюць ніякага адказу.

На гэтым мейсцы варта ўспомніць, і той факт, што калі стыгматычцы Тэрэсі Нойман паказалі фотаздымку з плашчаніцы, яна ў захапленьні заклікала, што гэта якраз праўдзівае аблічча Хрыста, Якога яна бачыць у сваіх экстазах.

Навуковымі досьледамі сьцьверджана, як бясспрэчны факт, што абраз на плашчаніцы ня ёсьць ані творам малярства, ані хварбаваньня. Да таго трэба памятаць тое, што ўжо было зазначана перш, а іменна што абраз на плашчаніцы ёсьць нэгатывам за выняткам крывавых плямаў і спаленых мейсц, дзеля гэтага цяжка нават уявіць, каб нехта ў сівай мінуўшчыне мог стварыць абраз-нэгатыў. Нешта падобнае магло-б быць магчымае толькі пасьля вынаходу фатаграфіі, значыць ад мінулага стагодзьдзя. (Фатаграфію вынайшлі французы: М. Ніпс (1765-1833) і Л. Дагэр (1787-1852).

Гэта аднак не азначае, што абраз паўстаў цудоўным спосабам. Не. Ён мог паўстаць дзякуючы зусім прыродным дзейнікам, але да гэтага часу вучоныя не дайшлі да згоды ў выясненьні гэтых дзейнікаў. Адны кажуць, што абраз мог вытварыцца пад уплывам хэмічных выпараваньнаў з цела, а другія цьвердзяць, што ён паўстаў ад судакрананьня з целам Хрыста, якое было намазана дарагімі алейкамі. Як ведама льняная тканіна ўцягвае ў сябе алейкі вельмі лёгка. Але адно і другое прыпушчэньне вымагае прызнаць, што маем дачыненьні з сапраўдным пахавальным палатном, у якое было акручана цела Хрыста.

Асабліва вартасныя доказы на карысьць праўдзівасьці плашчаніцы падалі лекары хірургі д-р. Віньён і д-р. Бара, выясьняючы паходжаньне плямаў ад крыві і суравіцы на плашчаніцы.

Уканцы трэба зацеміць, што апісаньне мукаў Хрыста, аб якіх чытаецца ў Эвангельлях, згодныя да найменшых драбніцаў з тымі пашкоджаньнямі цела, якія бачымо на Турыскай плашчаніцы.

Усё вышэйпаданае, узятае разам, дазваляе прыпушчаць, што Турынская плашчаніца мае на сабе сапраўдны абраз Хрыста, што яна прасякнута Яго Найсьвяцейшаю Крывёю і што яна ёсьць бясцэнным гістарычным дакумантам і адначасна матэрыяльным доказам існаваньня Хрыста. Дзеля гэтага навокал яе завязалася заўзятая дыскусія.

Трэба спадзявацца, што Міжнародны Кангрэс Прысьвячаны Турынскай плашчаніцы, які адбыўся, летась, вырашыць неадно спрэчнае пытаньне, зьвязанае з гэтым бясцэнным дакумантам.

**Ю. Л. Панаж.**

# Хрысьціянства ў сьвятле навейшых навуковых адкрыцьцяў

Наш дваццаты век шмат у чым розьніцца ад папярэдніх стагодзьдзяў. Найбольш характэрнаю азнакаю нашага веку ёсьць вялікі поступ навукі; некаторыя яго так і называюць: векам навукі. Няма амаль ніводнае галіны навукі, у якой-бы вучоныя дваццатага веку не дадалі чагосьці новага. Асабліва шмат новых адкрыцьцяў мае прыродазнаўства.

У абліччы так паважнага поступу навукі само сабою напрошваецца пытаньне: якое-ж становішча сучаснае навукі да рэлігіі агулам і да хрысьціянства ў асаблівасьці?

Ведема, што ў мінулым стагодзьдзі былі даволі модныя розныя гіпотэзы, якія быццам у імя навукі стараліся падкопваць аўтарытэт рэлігіі. Цяпер гэткае становішча асталося толькі ў падбальшавіцкіх краінах і то толькі дзеля таго, што там забаронены ўсякія новыя кірункі ў навуцы. Там сілаю чыстак між навукоўцаў падтрымоўваецца той матэрыялізм, які быў зьвіўся ў Эўропе ў палавіне мінулага стагодзьдзя, абаснаваны на гіпотэзе вечнасьці і нязьнішчальнасьці матэрыі. Тымчасам навейшыя адкрыцьці не пакінулі ніводнага цэлага мейсца ў гэтай гіпотэзе. Цяпер яна зусім зьнікла, асталася толькі тэорыя захаваньня энэргіі, але і яна мае зусім новае асьвятленьне, бо цяпер прызнаецца, што над энэргіяй і матэрыяй валадарыць Дух.

Разьбілі матэрыялістычную тэорыю, калі разьбілі атам, бо падчас разрыву атаму матэрыя, як такая зьнішчаецца і замяняецца ў энэргію. Гэтая зьмена выказвае, што быцьцё матэрыі і энэргіі ёсьць абмежаванае і недасканалае. Ясная рэч, што гэткая матэрыя ня можа існаваць ад вечнасьці, бо яна ўжо вечнасьць таму назад часткава замянілася-б у энэргію, якая расьцярушылася-б у сусьвеце. Калі-ж яна сёньня існуе, значыць яна мусіла заіснаваць у часе; значыць калісь мусіў быць яе пачатак, або кажучы іншымі славамі, мусіў быць час яе стварэньня. Сучасныя вучоныя нават прабуюць аблічыць час тварэньня. Дзеля гэтага адны падрахоўваюць колькасьць наяўных у прыродзе прадуктаў ад распаду радыёактыўных элементаў і атрымоўваюць дату

фармаваньня сьвету: два мільярды гадоў. Іншыя вынайшлі больш верагодны спосаб аблічэньня часу заіснаваньня сьвету на аснове астранамічнага адкрыцьця праф. Лювэнскага унівэрсытэту а. Лемэтр. Гэты вучоны адкрыў, што ўсе касмічныя туманнасьці расходзяцца ў прасторы з хуткасьцю 100 км. на сэкунду, займаючы штораз большы прастор у сусьвеце. Значыць мільёны гадоў таму назад яны былі шмат бліжэй да сябе, а 200 мільярдаў гадоў таму яны мусілі выйсьці з нейкага аднаго пункту.

Веліч сусьвету і аграмадныя нябесныя матэрыяльныя целы даюць сучасным вучоным доказ аб усемагутнасьці Стварыцеля. Бо-ж разьбіўшы атам, знойдзена страшэнна магутную крыніцу энэргіі, але адначасна сьцьверджана, што для паноўнага збудаваньня атаму, да тае энэргіі, якая вылад'оўваецца падчас разьбіцьця, нават калі-б яе было магчыма злавіць усю чыста, трэба яшчэ дадаць аграмадную колькасьць энэргіі на сам творчы акт кожнага атаму. Атамаў-жа ў сусьвеце толькі, што і ліку няма для іх азначэньня. І тут фізыкі стрэнуліся «абліччам у аблічча» з усемагутным і бесканечным Богам, Які адзін мог даць тую энэргію.

Як блізка гэты шлях давёў вучоных да Бога, можа сьведчыць англійскі астраном і фізык Джінс Джіна (1877-1946), які казаў: «Сучасная навуковая тэорыя змушае нас да прызнаньня Стварыцеля, дзеючага па-за часам і прасторам, каторыя ёсьць часткаю Яго твораньня, так сама, як мастак ёсьць па-за сваім палатном».

У зьвязку з разьбіцьцём атаму вучоныя загаварылі зусім паважна аб магчымасьці «канца сьвету», бо цяпер тэарэтычна зусім магчыма, што нейкі атам падчас свайго выбуху выкліча такую магутную «ланцуговую рэакцыю» выбухаў іншых атамаў, што яны пацягнуць за сабою зьнішчэньне ўсіх атамаў, з якіх складаецца наша Зямля.

Акрамя атамнае энэргіі вучоныя «адкрылі» яшчэ больш магутную крыніцу энэргіі і да таго энэргіі дабрадзейнае, будуючае, а гэтай энэргіяй ёсьць... малітва. Так, тая самая малітва, якую Царква паручала сваім вернікам ад вякоў. Выдатны біялёг д-р Ал. Каррэль (1873-1944) напісаў цікавую кніжку аб малітве з прыродазнаўчага гледзішча; выдатныя вайскоўцы так-жа падалі свае сьведчаньні аб сіле малітвы. (Каб не паўтараць таго, што ўжо было пісана ў «Божым шляхам», радзім прачытаць артыкул «Недацэньваная сіла» ў Нр. 25-25). Тут для прыкладу падамо толькі словы пераможцы немцаў у Афрыцы амэрыканскага гэн. Жоржа Паттона (1885-1945): «Тыя, што моляцца, робяць больш для сьвету, як тыя, што ваююць; і калі на сьвеце дзеецца штораз горш, дык гэта дзеля таго, што ёсьць больш змаганьня, як малітвы».

Між іншым варта ўспомніць даволі дзіўныя адносіны да малітвы бязбожнага бальшавізму. Праваліўшыся з сваімі двумя бязбожнымі пяцігодкамі, яны перакінуліся ў іншы бок і змусілі духавенства маліцца за савецкую ўладу. Асабліва ясна гэта выявілася тады, калі існаваньне савецкае ўлады вісела на валаску. Калісь бальшавікі на кожным кроку вышуквалі розныя закіды супраць Царквы за тое, што духавенства ў мінулым багаславіла аружжа, а ў 1942 г. самыя-ж бальшавікі прынялі ад савецкае «Праваслаўнае Царквы» цэлую калёну танкаў і да таго з урачыстым багаславенствам. Відаць, што акрамя прапаганды ў гэтых павод'зінах бязбожная ўлада адчула патрэбу тае маральнае сілы малітвы, якую да гэтага часу дарэмна старалася зьнішчыць.

Асабліва цікавыя адкрыцьці на карысьць хрысьціянства зрабіла мэдыцына. Прызнана вялікую вартасьць хрысьціянскае аскезы так для асабістага здароўя, як і для грамадзкага дабра. Цудоўныя аздараўленьні, якія ад вякоў прыкоўвалі да сябе ўвагу чалавека і выклікалі шмат крыватолкаў, нядаўна былі афіцыяльна прызнаны мэдыцынаю. Да гэтага шмат прычынілася Бюро Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрдзе, у якім удзельнічаюць найвыдатнейшыя лекары ўсяго сьвету.

Нядаўна ў паўночнай Швэцыі лекары выкрылі грозную дзіцячую хваробу у тых сем'ях, якіх продкі мелі частыя сужэнствы ў блізкіх ступенях спародненьня. Дарагою цаною сьмяротнасьці дзяцей адкупліваюць швэды незахаваньне прыпісаў Каталіцкае Царквы адносна сужэнства.

Але вось зусім нядаўна зьявілася сапраўды сэнсацыйная вестка, што мэдыцына выкрыла любоў. Не якоесь каханьне, не! але самую сапраўдную любовь; якраз тую любоў, аб якой з такім націскам гаварыў Ісус Хрыстос. Сучасная мэдыцына даказвае, што хрысьціянская любоў неабходная чалавеку, бо нястача любові вядзе да розных псыхічных закалотаў. Д-р Аўрам Стон аб гэтым кажа: «Мы, мэдыкі, цяпер займаемся вывучэньнем лячэньня любоўю. Гэта найбольш дзейная тэрапія». Іншы выдатны амэрыканскі лекар д-р Брюк Чізум галоўны дырэктар Сусьветнае Арганізацыі Грамадзкага Здароўя пры Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, кажа: «Будучыня сьвету залежыць ад ліку людзей здольных любіць і здольных ацэньваць праблемы нашага сьвету ў стане яго заўсёднага фармаваньня з гледзішча любові, а не з нянавісьці». Падаючы да агульнага ведама аб гэтым новым адкрыцьці д-р Говард Вайтман кажа: «Так, вучоныя ёсьць на шляху, які вядзе да Хрыста, Які дьзве тысячы гадоў таму казаў: «Даю вам новае прыказаньне, каб любілі адзін аднаго!»

У біялёгіі паддалі паважнай крытыцы тэорыю паўстаньня жыцьця. У выніку гэтага перагляду створана доказ «супраць-прыпадковасьці» ў паўстаньні жыцьця. Першы выказаў гэты доказ выдатны біялёг Пятро Лекомт-дю-Нуі († 1949) на аснове аблічэньняў ведамага швайцарскага матэ-

матыка Карла Гуі. Ён сьцьвердзіў, што калі-б безнастанна мяшаць атамы ўсяго сьвету на працягу усіх 2-х більёнаў гадоў, ад калі існуе сьвет, дык усё-ж было-б замала і часу і ўсяе існуючае матэрыі, каб у гэтай мешаніне прыпадкам маглі спаткацца ўсе тыя элемэнты, у такой прапорцыі і форме, як гэта патрэбна для ўтварэньня аднае дрыбіны протэіны, без якое ня можа існаваць ніякае жыцьцё. А што-ж гаварыць аб прыпадковым утварэньні хоць-бы найпрасьцейшае расьліны, ці жывёлы, якія складаюцца з більёнаў дрыбінаў протэіны? Гаварыць аб тым, што яны маглі паўстаць у выніку прыпадку, ёсьць крайным бязглузьдзем.

У дарвінскую тэорыю эвалюцыі пазьнейшыя біялягічныя адкрыцьці ўнесьлі толькі розных дапаўненьняў і папраўак, што яна ўжо даўно перастала быць небясьпечным аружжам у руках ваюючых бязбожнікаў і сёньня ня раз робіць паважную прыслугу рэлігіі. Асабліва законы спадковасьці, устаноўленыя Рыгорам Мэндэлем і распрацаваныя амэрыканскім біялёгам Т. Морганам (1866-1945), падрэзалі фантастычныя крыльлі «эвалюцыяністаў». На дадатак навейшыя досьледы выкрылі значныя магчымасьці раптоўных зьменаў (мутацыяў). Запачаткаваў гэтую тэорыю галяндзкі вучоны Гуго дэ Врiс (1848-1935), але цяпер яна атрымала шмат паважных доказаў у выніку досьледаў Т. Моргана і інш. Ня дзіва, што на ўсе гэтыя асягненьні савецкая «навука» накінулася, як на «мракобесныя і рэакцыйныя».

Сапраўды зьявішча вартае асаблівае ўвагі, што з ліку ўсіх навуковых навейшых асягненьняў ня толькі што няма нічога варожага да хрысьціянства, але шмат адкрыцьцяў амаль у кожнай галіне навукі служыць якраз на карысьць хрысьціянства.

Археолёгічныя раскопкі ў Палестыне прынесьлі шмат вартасных доказаў на карысьць праўдзівасьці Бібліі.

Філялёгія сьцьвердзіла існаваньне некалькі зусім незалежных сем'яў людзкіх моваў, тым самым дадала новы доказ на карысьць верагоднасьці біблійнага расказу аб зьмяшаньні моваў.

Антраполёгія (нават і савецкая) прызнала паважную нястачу доказовага матэрыялу для ўстанаўленьня эвалюцыі чалавека з ніжэйшых істотаў.

Псыхалёгія прымае, як пэўны факт, што кожы ўчынак чалавека пакідае па сабе нязьнішчальны сьлед у душы чалавека.

Аднак усе вышэйпералічаныя факты і шматлікія іншыя ім падобныя ня сьведчаць аб тым, што між сучасных навукоўцаў няма недаверкаў. Яны ёсьць незалежна ад стану адносін навукі да рэлігіі. З сьв. Пісаньня ведама, што ўсе ангелы адразу пасьля іх стварaньня і ведалі і бачылі Бога, аднак падчас пробы некаторыя праз сваю гордасьць адпалі ад Бога і сталіся чартамі. З чалавекам можа стацца так-жа падобнае няшчасьце незалежна ад стану ягонага разумовага разьвіцьця, бо на тое каб быць веруючым і рэлігійным чалавекам, трэба мець у першую чаргу добрую волю ўспрыняць Божае аб'яўленьне і выконваць Божыя прыказаньні, а гэтага сьвецкая навука не дае.

Але факт ёсьць фактам, што сучасная навука йдзе ў кірунку да Бога і гэтае зьявішча абумоўлена глыбокімі прычынамі, дык зусім слушна кажа сучасны амэрыканскі фізык праф. Р. А. Мілікэн: «Можна спадзявацца, што наступаючыя гады пакажуць хутчэй узрост, а не аслабленьне адносінаў між вучонымі і Царквою».

Каталіцкая Царква азначае гэты факт, як вельмі пацяшаючы знак часу. Яна аднак не забываецца тых шматлікіх зьменаў, якія мела навука на сваім шляху і адначасна сьведамая, што асноўнікам Царквы ёсьць Бог, Які ані ня хоча, ані ня можа памыліцца. Дзеля гэтага Каталіцкая Царква глядзела спакойна ў будучыню, калі ў мінулым стагодзьдзі множыліся бязбожныя гіпотэзы і дзеля гэтага самага не заціpae рук з радасьці ў абліччы пацяшаючых зьменаў сёньня. Яна тымбольш спакойна і ўпэўнена глядзіць у будучыню, калі ў навуковых кругох назіраецца той зварот да Бога, у сьвятле якога навучальны аўтарытэт Царквы стае больш ясным, чым калі.

**а. Л. Гарошка.**

# КІНО

**Яго добрыя і дрэнныя ўплывы.**

(Заканчэньне).

**Жанчына і сям'я.**

Не памылімся, калі скажам, што ў прыцемненых кінотэатральных салях відаць больш жаночых галоў, чым мужчынскіх. Абумоўліваецца гэта натураю жанчыны, якая жадае ўсё бачыць, усё ведаць, аб усім злёгку палепятаць. А кіно дае такую нагоду: выгадна сядзець, глядзець, ня думаць і... гэтулькі ўсяго бачыць! Калісь, каб пазнаць розныя робінзонаўскія прыгоды, трэба было прынамся пасядзець над кніжкаю, трэба было **чытаць.** Цяпер кіно адымае цяжар чытаньня і даволі адчыніць вочы, кінуць позірк на белае палатно экрану, каб убачыць мітусьлівыя абразкі жыцьця.

Каго там бачыш?

Ня выключна, але перадусім жанчыну. Але якую? Можа нявінную дзеву ,каханую сястру не-

шчасьлівага брата, добрую маці, верную дзяўчыну??? Былі і бываюць фільмы і з такімі жанчынамі. Прыкладам могуць быць: нямецкія фільмы «Мацярынская любоў» і «Аннэлі»; італьянскі «Мама»; амэрыканскі «Я помню маму» і інш. Але нажаль на ўсю фільмовую прадукцыю ў сьвеце падобныя фільмы ёсьць дробнымі каплямі ў моры! Пераважна на экране паказваецца прыгожую, але і сапсованую жанчыну, якая ласкамі ,подступам і рознымі хітрыкамі аблытвае мужчыну разьбівае сужэнства, сама па некалькі разоў разводзіцца. Пераважна жанчына ў фільме гэта не сяброўка жыцьця, не дбайлівая маці і верная сужонка! Не. Гэта найчасьцей Эва з усімі сваімі прынадлівымі вонкавымі прыметамі, пазбаўленая жаночага сораму, палюючая на грошы, раскашы і розныя сэнсацыі.

Лёгка дагадацца, які ўплыў мае гэткая жанчына на сям'ю.

Такое кіно падрэзвае карані сямейнага жыцьця, прапагуючы сужэнскую зраду, вольную любоў і разрыў сужэнства.

Такое кіно дэградуе і ганьбіць любоў сужонкаў, а самае сужэнства найчасьцей паказваецца на фільмовай плёнцы, як магіла любові.

Такое кіно ёсьць ворагам калыскі. Жанчына з фільмовага экрану найбольш дбае пра вонкавую прыгожасьць, пра незалежнасьць ад нікога, а мацярынства і дзеці яе зьвязвалі-б. Дык бяссорамна прапагуецца, або аборт, або іншыя «мадэрныя» і «паступовыя» вынахады.

У Лёндане кожнае суботы і нядзелі можна бачыць перад кожным кінам даўжэзныя хвасты. Людзі цярпліва чакаюць на права ўступу. А запытай першую жанчыну: чаму яна йдзе ў кіно? Не-адна скажа: проста, каб «забіць» нуду жыцьця, але шмат будзе і такіх, якія цябе паінфармуюць, што йдуць, каб пабачыць, ці артыстка «X» грае таксама ,як даўней, ці ўжо пастарэла? Якую цяпер мае андуляцыю валасоў? Як выглядае ў мужчынскіх портках пасьля пару абортаў? Матывы розныя... Ня дзіва тады, што сужэнствы ня вяжуцца, калыска ў хаце стае непатрэбным мэблем, а жанчыны да грудзей замест дзяцей толькі кацянят ці сучанят туляць.

**Фільмовыя зоркі зьнічкі.**

Калі гутарка аб жанчынах, дык трудна абмінуць гэтак званых фільмовых зорак, каторым у беларускай мове куды лепш адказвала-б імя зьнічкі.

Кінотэатры, гэта сьвятыні XX-га стагодзьдзя, у якіх зьбіраюцца мільёны «вернікаў» не дзеля таго, каб маліцца, але каб бачыць прыклад. Не хачу быць пустаслоўным адносна ліку «вернікаў» і да ўсяго таго, што было ўжо падана перш, дадам яшчэ некалькі лікаў навейшае даты.

85 мільёнаў амэрыканцаў ходзіць у кіно што-тыдня. У Аўстраліі тры разы больш народу адведвае кіно, чымся ўсе іншыя разрыўковыя мейсцы разам узятыя з спартовымі клюбамі ўключна. У Англіі 25 мільёнаў людзей кожнага тыдня плацяць у касу кінотэатру па паўтара шылінга, г. зн. усе работнікі і палова іхных дзяцей.

На ўсім сьвеце налічваецца больш 100 тысяч кінотэатраў. Толькі ў самым Лёндане іх ёсьць больш 400.

І тыя мільёны глядзельнікаў, што-ж яны бачаць? З напружанымі нэрвамі бачаць гэроіняў-зорак, якія паказваюцца быццам найлепшыя прыклады для насьледаваньня і адначасна прагнучыя для сябе адарацыі. Дык ці-ж дзіва, што нямала з тых, якія аглядаюць іхныя цені на экране, зьбіраюць іхныя здымкі, вешаюць іх над ложкам быццам сьвятыя іконы?!

Кіньма аднак хоць кароткі пагляд на Гольлівудзкі небасхіл, найслаўнейшы ў сьвеце і прыгляньмася зоркам першае велічыні, што ў іх ёсьць прыкладнага?

Свайго часу Лёў Тэлежэн быў адным з найбольш выдатных артыстаў Гольлівуду, але мода яго мастацтва хутка прамінула. Трудна яму было перажыць найбольш крытычны час, калі ад славы мусіў пайсьці ў забыцьцё. Ён кончыў самагубствам. Падобны лёс быў Аляксандра Рос, іншага слаўнага актара; хутка праляцелі дні яго славы, якія закончыў так, як і яго сужонка — самагубствам. А хто сёньня помніць аб такіх «зорах», як Джон Гільбэрт, Раман Новаро? Зусім падобны лёс зорак-жанчын. Люлі Дэст, сьпяшаючыся ў Гольлівуд загінула ў друзах разьбітага самалёту і памяць аб ёй хутка загінула. Калі памерла 26 гадовая Джоньні Марлёў, якое імя і прыгожую постаць разносілі кінофільмы па цэлым сьвеце, дык прэса падала кароткую вестку: «Адна зорка пагасла». А гэтая «зорка» была два разы разьведзеная і плянавала новае сужэнства, акружана была рознымі скандаламі. Як зьнічка засьвяціла на экране, каб пасьля аб ёй і сьлед загінуў.

Знатакі кажуць, што слава фільмовых артыстаў найменш трывалая. Рэдка калі хтосьці з іх перацягнуў за пяць гадоў. І як толькі яны зыходзілі з экрану, мінала якога паўгода часу і сьвет аб іх забываўся, але іхны ўдзел у такім ці іншым фільме мог мець вялікі і магчыма нават вельмі дрэнны ўплыў на жыцьцё не аднаго з глядзельнікаў.

Ёсьць ведамы макабрычны раман амэрыканскага пісьменьніка Тодара Дрэйзэра. З гэтага раману зроблена фільм, дзе высьвятляецца, як 21-гадовы юнак забіў сваю каханку, якую ён падступна заманіў на лодку, адвёз далёка ў мора, вывернуў лодку і марскія нетры паглынулі дзяўчыну. У рамане забойца выступае не як асоба сьведамая свае адказнасьці за свае злочыны, але як ахвяра нейкае сьляпое канечнасьці.

І здарылася, што пасьля высьвятленьня таго фільму, засудзілі на сьмерць у электрычным крэсьле аднаго забойцу, які забіў сваю ахвяру падобным спосабам. Перад засудам судзьдзя спытаў, як злачынцу прышла такая думка забойства, дык той адказаў, што натхненьнем для яго быў раман Дрэйзэра. Пісьменьнік быў прысутны ў судовай салі і калі пачуў цынічную споведзь забойцы, дык з вачэй пацяклі сьлёзы.

Колькі-ж іншых аўтараў павінны былі-б заплакаць, бачучы руіны душ, якія яны спрычынілі сваімі повесьцямі накручанымі на фільмовую плёнку.

**Разрыўка і хрысьціянская мараль.**

Кіно ледзь ня ўсім сваім цяжарам належыць да галіны разрывак. Бяз сумніву яно ёсьць найбольш папулярнай разрыўкай XX-га веку. Каб належна этычна ацаніць разрыўку, трэба ўзяць пад увагу яе: а) натуру, б) абставіны і в) мэту.

а) Натура. Ёсьць разрыўкі, якія па сваёй натуры зьяўляюцца дрэннымі. Да такіх разрывак належалі ў старадаўнасьці глядыятарскія спаборніцтвы. Іхняй мэтай было забойства праціўніка. Так-жа ёсьць дрэннымі ўсе тыя разрыўкі якія спалучаны з грубым сэксуалізмам, эротызмам і газардам. Ёсьць аднак разрыўкі, што па сваёй натуры зьяўляюцца **абыякавымі** і толькі ў сілу абставін і мэты могуць стацца неэтычнымі. Такімі ёсьць тэатр, музыка, **кіно,** радыё і інш.

б) Абставіны. Трэба заўсёды ўзяць пад ўвагу: асобу, час і мейсца разрыўкі. Наедна разрыўка можа быць добрай для дарослых, але шкоднай для моладзі, або зусім добрай для хлапцоў, а недапушчальнай для хлапцоў і дзяўчат разам. Што да часу, дык трэба памятаць, што для веруючага чалавека і хрысьціяніна ёсьць абавязучыя нормы адносна сьвятаў і распадзелу царкоўнага году. Гэта значыць, што нават добрая сама па сабе разрыўка можа стацца дрэннай, калі дзеля яе прапусьціцца багаслужэньне ў сьвяты дзень. Або таксама будзе дрэнна рабіць той, хто будзе марнаваць час на разрыўкі ў будні дзень якраз тады, калі можна зарабіць на саё пражыцьцё. Важна так-жа, **дзе** адбываецца разрыўка. Напрыклад сам па сабе зусім нявінны фільм, калі яго будуць высьвятляць у публічным амаральным мейсцы, даход з якога йдзе на дрэнныя мэты, тым самым становіцца дрэнным і змушае ўстрымацца ад яго агляданьня.

в) Мэта. Разрыўка ня ёсьць мэтай сама для сябе, а толькі сродкам — часам вельмі патрэбным для асягненьня нейкае мэты. Як яда служыць ня толькі для задаваленьня прыемнасьці падчас яе спажываньня, але для падтрыманьня нашага жыцьця і сілы да працы, так і разрыўка ёсьць адпачынкам і адсьвяжэньнем сілы для далейшае людзкое творчасьці.

**Прынцыпы ў датарнаваньні да кіна.**

Бяручы пад увагу ўсё вышэйсказанае, мы можам зрабіць наступныя выснаўкі:

1) Кіно ёсьць **добрай** разрыўкай, калі высьвятляе фільмы добрага маральнага зьместу, якія маюць добры ўплыў на ўзгадаваньне і ня маюць нічога супраць хрысьціянскае этыкі.

2) Кіно ёсьць **дрэннай** разрыўкай, калі высьвятляе фільмы абражаючыя праўду, мараль, рэлігію. Такіх фільмаў кожны асабіста павінен ўнікаць, а дзяржава з свайго боку не павінна даваць дазволу на іх высьвятленьне. Сьвяцейшы Айцец Пій XII у прамове да моладзі Рыму гаварыў: «Ня трэба прысутнічаць на такіх фільмовых паказах, якія высьвятляюцца ў такіх цёмных захалусьцях, дзе чэсны чалавек ніколі не павінен-бы паставіць свае нагі».

3) Кіно ёсьць **абыякавай** разрыўкай, калі яго паказы нявінныя, дзе няма нічога ані дрэннага, ані ня мае на ўвеце ніякае добрае мэты.

Фільмы, дзе паказваюцца забойствы, злачынствы, ёсьць дрэннымі, калі асьвятляюць гэтыя ўчынкі, як **пазытыўныя,** або прэдстаўляюць іх, як гэройства.

Заўважма яшчэ адно. Некаторыя цьвердзяць, што ў мастацтве наагул на сорам ня трэба зьвяртаць увагі, апраўдвачыся клічам: «Мастацтва для мастацтва». Гэтак магло-б быць, калі-б мастацтва не тварылі людзі і для людзей. Таму аднак, што ў чалавека ёсьць некаторыя якасьці і ўчынкі, з якімі ён ахвотна паказваецца ў людзі, а з некаторымі ўчынкамі хаваецца ў скромныя мейсцы патрэбных каморак, дык і мастацтва павінна лічыцца з тым, што на чалавеку цяжыць першародны грэх з усімі яго сумнымі наступствамі і не пабуджаць іх.

Нудызм, эротыка, звыраднелыя нахілы — ёсьць чорнымі плямамі людзкога быцьця; як-бы іх голасна не вялічалі, яны заўсёды астануцца плямамі.

Ня можна йсьці на фільмовы паказ, перш ня ўпэўніўшыся аб ягоным этычным характары. Такое правіла абавязвае ўсіх чэсных людзей. Ня лічацца з ім толькі тыя, што маюць «за шмат часу» і ня маюць чым яго забіць, а так-жа і тыя, каторых мараль ня шмат розьніцца ад жывёлаў, якія палагоджваюць свае прыродныя патрэбы на кожнай вуліцы і ў кожным мейсцы бяз ніякіх скрупулаў.

**А. Дзедзінка.**

# Набачны судзьдзя

Перад першаю сусьветнаю вайною была ў Італіі слаўная артыстка Тіно Ровіда. У росквіце свае хуткапрамінулае славы яна аднойчы прагульвалася ў аўце па людных вуліцах Флёрэнцыі з Гастонам Лісэ, карэспандэнтам францускае газэты

«Фігаро». Калі яны затрымаліся на нейкі час на пляцы Дуомо, да іх падышла старая жабрачка і папрасіла міластыні. На гэтую просьбу Тіно Ровіда адказала так востра і абразьліва, што жабрачка заплакала. Узрушны сьлязмі старчыхі Гастон Лісэ шчодра абдараваў яе, каб суняць плач і нічога ня кажучы артыстцы, загадаў шофэру хуцка ад'ехаць.

Ад таго часу мінула пару дзесяткаў гадоў і вось перад самаю другою сусьветнаю вайною тойжа французскі карэспандэнт Гастон Лісэ праязджаў праз тую-ж Флёрэнцыю, але гэтым разам у таварыстве нямецкага карэспандэнта Рудольфа Уч. Яны затрымаліся на хвіліну на тым-жа пляцы Дуомо і падышла да іх нейкая страчыха з выцягнутаю рукою, просячы міластыні. Гастон Лісэ хацеў даць ёй пару ліраў для адчэпнага, але калі глянуў на аблічча жабруючае, зьмяшаўся, пасьпешна даў ёй 1000 ліраў і так, як калісьці хутка ад'ехаў; гэтым разам... жабравала калішняя слаўная Тіно Ровіда. Пераказваючы гэтае здарэньне, Рудольф Уч кажа: «На асобе гэтае жабрачкі я адчуў сілу нябачнага Судзьдзі».

# Сірата пад крыжам

Ганулька ўжо адчувала сірочую долю, як даведалася, што на вайне забілі яе бацьку, але ўсёж з мамкаю неяк жылося. Праўда, сумна было ў хаце і бедна; зімою холадна, вясною і летам было шмат цяжкае работы. Мамка пачала нядужаць і перад Вадохрышчам памерла.

— Што-ж цяпер рабіць? — пытала сябе, горка плачучы, Ганулька.

Добрыя людзі пахавалі ганульчыну маці, а вяртаючыся з паховінаў адна суседка прыпомніла, што ў Ганулькі ёсьць недзе ў Сьветавічах цётка і шкадавала, чаму ёй ніхто не наказаў аб хаўтурах але яна напэўна прыме Ганульку. Хоць цётка жыве далёкавата і на дварэ сьцюжа, ды што гэта значыць для васьмігадовае дзяўчыны перабегчы да Сьветавіч...

— Гэта-ж, як рукою падаць — паясьняла суседка. — Вось, як выйдзеш з нашае вёскі на гару, дык і пабачыш Сьветавічы, а туды, як увойдзеш, дык трэцяя хата з краю направа.

І пайшла Ганулька ў Сьветавічы. Аб гэтай вёсцы яна ужо даўней чула ад маці і аб цётцы ведала, нават і дарогу крыху прыпамінала, бо летам тудэю часам бегала з сваімі сяброўкамі, але цяпер зіма і дарога выглядала быццам нейкая зусім няведамая. Сьнег усе прыкрыў белаю пялёнкаю, а моцны вецер замятаў нават каляіны на дарозе і моцнымі рыўкамі біў твар Ганулькі так, што яна нават не магла разглядацца па дарозе. Ганульцы здавалася, што сьцюдзёны вецер праймае яе праз старэнькую сярмяжку і праз вопратку аж да самых косьцяў. Яна ўся дрыжэла, пачырванеўшыя пальцы скруціліся ў непаваротныя кулачкі. Яна час ад часу хукала на іх, але ад гэтага цяплей ня было.

Як Ганулька дайшла да скрыжаваньня дарог, дык зусім разгубілася. Калісь тут расла бярозка, а цяпер на тым мейсцы відаць было толькі нейкі гарбок. Як на бяду нідзе навокал ня было відаць ні жывое душы, каб можна было распытаць дарогу. Толькі стары крыж стаяў воддаль ад скрыжаваньня і нейкі куст каля яго.

— Можа туды падыйсьці? — думае Ганулька. — Ля куста будзе зацішней, дык пачакаю там пакуль хто будзе йсьці дарогаю.

Яна зышла з дарогі і адразу правалілася па пояс у сьнег. Зрабілася яшчэ халадней, але яна накіроўваецца да куста і да крыжа.

Вецер віскунец адразу замятае сьляды Ганулькі. Але вось яна дабрыла да куста і стала ўглядацца на крыж. Расьпяцьце яна бачыла няма ведама колькі разоў, бо-ж у іх хаце на покуці быў такі абраз, але тут Хрыстос выдаўся ёй не такі, як на абразох. Ён тут быў быццам жывы і такі спагадлівы, такі блізкі, што яна пачала падзіцячаму выказваць перад Ім свае турботы і жаль.

— Я ў Сьветавічы да цёткі йду, але далей ня ведаю дарогі. Мне вельмі холадна і я яшчэ сяго́ньня нічога ня ела. У меня ўжо няма ні таткі, ні мамкі...

Моцны парыў ветру перабіў яе гутарку. Яна спрабавала прытуліцца да куста, але там ня было ніякага зацішша.

— Божанька, мне холадна.

Тут яна прыглянулася ўважней да Укрыжаванага і змоўкла. Пасьля хвіліны задумы гаварыла сама да сябе:

— Але як-жа мусіць быць холадна Хрысту. На мне дык і сарочка, і плаце, і сярмяжка, а ў Яго няма нічога, акрамя хвартушка на паясьніцы.

Адубеўшымі рукамі яна пачала расшпільваць сярмяжку, скінула яе і пачала ўзлазіць на крыж.

Гэтым часам дарогаю пад гоман шаламкоў праімчаліся багатыя сані. Ганулька так была занятая, што нават не зьвярнула ўвагі на шаламкі і ня чула, што людзі ў санях гаварылі:

— Глядзі! што гэтая малая там робіць? — казаў жаночы голас.

— Вось лепш не глядзі, калі ня хочаш мець лішняга клопату на сваёй галаве, — адказаў якісь бас.

Крыж быў за высокі для Ганулькі і рукі адубелыя, дык узьлезьці на крыж не змагла. Але глянуўшы на куст, яна пабачыла, што адтуль зусім блізка да правае рукі Хрыста. Праз хвіліну яна

ўжо была на кусьце і трымалася за перакладзіну крыжа адною рукою, а другою закінула сваю сярмяжку проста на галаву Хрыста. З радасьці, што ўдачна выканала сваю задуму, яна саскочыла з куста пад крыж і села проста ў сьнег.

Даротаю зноў у хуткай язьдзе зарыпалі сані. Але калі толькі Ганулька накіравалася падыйсьці да іх, дык пуга сьвіснула па конскім азадку і сані стралою паімчаліся далей. Яна нават не змагла разабраць таго, што на санях гаварылі:

— Гэта якісьці чужацкі тып, бачыш зусім ня наша раса, дык няма чаго і часу траціць займацца ёю.

Яна ўжо думала вяртацца зноў пад крыж, як пачула здалёк шаламкі і вясёлыя крыкі. Нейкі п'яны голас гарлапаніў мацней за посьвісты ветру: «А хто п'е таму налівайце, хто ня п'е, таму не давайце»...

Ганулька крычала ім на сустрэчу:

— Дзядзюшка, дзядзюшка, кудэма йсьці...

— А ты, лахудра, чаго тут зяляпаешся, — пачулася замест адказу і пуга сьвісьнула па яе плячох. З саняў пачуўся дзікі сьмех.

Ад болю і з жалю аж сьлёзы пацяклі з вачэй і яна зноў накіравалася да крыжа, але пабачыла здалёк на дарозе нейкага чалавека, які йшоў быццам на трох нагах. Калі ён падышоў бліжэй, дык убачыла, што гэта быў калека з адною нагою на кастылёх. Ён першы адазваўся да Ганулькі:

— Чаго-ж ты, малая, стаіш тут гэткаю сьцюжаю?

— Дзядзюшка, можа вы ведаеце кудэма ў Сьветавічы йсьці?

— У Сьветавічы хочаш ісьці? Дык ты-ж так распраненая замерзьнеш пакуль дойдзеш туды.

— Я да цёткі йду, бо мне няма дзе падзецца. Татку на вайне забілі, а мамку ўчора пахавалі.

— На вайне татку забілі, кажаш, а маіх дзяцей тут забілі... Але чаму-ж ты выбіраючыся ў гэткую дарогу не апранулася хаця?

— Дык я была апранула сярмяжку, але вонь пабачыла на крыжы Хрыста зусім не апраненага ў гэткую сьцюжу, дык аддала Яму...

— Хрысту сярмяжку аддала... — паўтарыў ціха падарожны, гледзячы на крыж, — а сама... На патрымай мой кастыль, — зьвярнуўся ён раптам да Ганулькі.

Яе адубелыя рукі ледва маглі трымаць кастыль. Падарожны пачаў хутка распранацца. Ён скінуў свой халат і перадаў яго Ганульцы.

— На, апранайся хутчэй!

— А як-жа вы будзеце неапраненыя, вам-жа будзе холадна.

— Апранайся, апранайся хутчэй... — Ён памог ёй зашпіліць гузікі і расьцёр яе адубелыя рукі. — Аба мне ня турбуйся. Падбяры крыху крысы халата, каб не цягнуліся па сьнезе, ды йдзі са мною. У меня ў хаце яшчэ знойдуцца сякія такія лахі і лыжка цёплае стравы...

Тымчасам вецер зьвеяў ганульчыну сярмяжку з галавы Хрыста быццам на тое, каб Укрыжаваны мог бачыць і багаславіць дзьве постаці, якія павольлі зьнікалі за горкаю.

**Анатоль Жменя.**

## БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНА ПЕСЬНЯ НА ВЯЛІКІ ПОСТ.

(Кожнны радок паўтараецца па 2 разы).

Была зямля ня сьвянцона,
Былі людзі ня хрышчоны.
Ня верылі Госпаду Богу,
А верылі люту-цмоку.
Люту-цмоку далі (а)броку
Кожны дзень па чалавеку.
Йшло яно ўсё чарадою,
Прыйшло й да князя самога.
— Ці сам ідзі, ці дачку шлі,
— Ці сыночка маленькага,
— Ці дружочка вярненькага,
— Я сам ня йду, дачкі ня шлю,
— Ні сыночка маленькага,
— Ні дружочка вярненькага.
— Ёсьць, у мяне чаляднічка.
— Чаляднічка сабірайся,
— У белы кужаль убірайся,
— Ды йдзі-жа ты к сіне-мору,
— К сіне-мору, бел-каменю.
Чаляднічка крыжам пала,
Госпад-Бога умаляла
Госпад-Бог яе пачуў,
Чаляднічку адпусьціў.

Запісаў **Я. Гладкі** на эміграцыі ад сялянкі з Случчыны раён, Глуск.

**БІБЛІЯГРАФІЯ.**

# „Усходне-славянская царкоўная гісторыя“

**A. M. Amman S. J. — Abriss der ostslawischen Kirchengeschichte. Herder — Wien 1950 — F. 8°, S. 748 + XVI.**

Нямецкая навуковая літаратура, ведамая з свайго багацьця, нядаўна ўзбагацілася новым набыткам, якім ёсьць кніга а. Аммана — Нарыс усходне-славянскае царкоўнае гісторыі. У адносінах да закранёнае тэмы кніга ня ёсьць абшырнай, аўтар мусіць часта быць вельмі ашчадным у словах, каб на 748 с. абгаварыць падзеі з аграмаднага прастору і часу, але вялікая вартасьць гэтага твору палягае ў тым, што аўтар мае на

ўвеце глянуць глыбей і аб'ектыўней у рэлігійныя адносіны на ўсходне-славянскіх абшарах, як гэта рабілі японыя папярэднікі.

Дый гэтых папярэднікаў было ня шмат: пару чалавек у мінулым стагодзьдзі (іхныя творы ўжо даўно страцілі сваю актуальнасьць) і пару чалавек сучасьнікаў, якія пераважна закраналі толькі паасобныя пытаньні датычна рэлігійнага жыцьця ўсходніх славян. Дзеля гэтага твор а. Аммана трэба прывітаць, як паважны ўклад у гісторыю Царквы агулам, а ў гісторыю Царквы ўсходне-славянскіх народаў у асаблівасьці.

Аўтар бачыць на ўсходзе Эўропы ня толькі Расею, як гэта здаралася ў бальшыні ягоных папярэднікаў, але так-жа Беларусь і Украіну; бачыць імкненьні ды змаганьні гэтых народаў і водгульле гэтага змаганьня на рэлігійных адносінах. Зразумела, што гэта дае яму магчымасьць глыбей глянуць у прычыны шматлікіх рэлігійных падзеяў, якія да гэтага часу прарасейскія гісторыкі падавалі толькі ў форме летапіснае хронікі.

Трэба залічыць да вельмі дадатных азнакаў «Нарысу ўсходне-славянскае царкоўнае гісторыі» тое, што аўтар не баіцца глянуць праўдзе ў вочы нават тады, калі яна для яго ня зусім прыемная і не стараецца яе абыйсьці моўчанкаю, але ўмее пагадзіць глыбокую каталіцкую рэлігійнасьць з навуковаю аб'ектыўнасьцю нават тады, калі мусіць сказаць непахвальнае слова нават для Рыму (с. 314, 509), або калі мусіць скрытыкаваць езуітаў, хоць сам зьяўляецца езуітам. Таксама гаворачы аб польскіх палітыках і духавенстве, ён з усім спакоем падае і добрыя, і дрэнныя іхныя ўчынкі і ўмее выказаць дакор за кепскае дзеяньне нават ня ўжываючы дакорлівых слоў — гэта кожны чытач адчуе сам, чытаючы напрыклад аб варожых адносінах віленскага рыма-кат. біск. Матэя да Флёрэнтыйскае Вуніі, або аб адносінах палякаў да Берасьцейскае Вуніі, ці агулам аб інтрыгах польскага духавенства ў адносінах да беларусаў і украінцаў.

Затое аўтар вельмі асьцярожны, калі закранае дрэнныя бакі расейскага рэлігійнага жыцьця, адносіцца да гэтага пытаньня, як да балючага мейсца, больш стараецца зьвярнуць увагу на дадатныя бакі рэлігійнага жыцьця.

Аднак у гэтай вартаснай кніжцы не абышлося без некаторых недакладнасьцяў і нястачаў.

Часам гаворачы аб прычынах некаторых падзеяў, зашмат апраўдвае дрэнныя ўчынкі расейскіх цароў.

Для азначэньня беларусаў, аўтар карыстаецца словам: Weissrussland. Відавочна яму ня ведамая кніга Энгельгардта: «Weissruthenien— Volk und Land» выданая ў Бэрліне 1943 г. Там ёсьць даволі аргумэнтаў на доказ беспадстаўнасьці слова «Weissrussland» для азначэньня Беларусі. Тут ня мейсца паўтараць гэтыя доказы, але варта зьвярнуць увагу, што з навуковага гледзішча становішча аўтара да іменнае беларускае тэрміналёгіі штонайменш неконсэквэнтнае. Ён слова «Русь» усюды пакідае неперакладжаным, дык як-жа тады мягчыма гэтае самае слова ў спалучэньні «Беларусь» перакладаць, ды яшчэ перакладаць у такі недарэчны спосаб нароўні з Белай Расеяй адным і тымжа нямецкім словам «Weissrussland»? Гэтак робяць расейцы з чыста імпэрыялістычна-нацыяналістычных меркаваньняў, але для нямецкае навуковае саліднасьці ісьці бяскрытычна за гэткімі расейцамі ёсьць паважным мінусам. Дый сам аўтар ня раз быў у клопаце, як з такім назовам разрозьніць беларусаў ад белае расейскае эміграцыі? З гэткаю тэрміналёгіяю нават Денікін стаўся «беларускім» гэнэралам (с. 601) і двукосьсе тут нічога не памагае, а на наступных старонках дык і дукосьсе адпадае.

Шкада так-жа, што аўтар ня выкарыстаў у сваёй працы твору кс. Ад. Станкевіча — «Хрысьціянства і Беларускі Народ». Вільня 1940 г., ды агулам як відаць з бібліяграфіі, нават ня выкарыстаў ніводнага твору расейскіх аўтараў, якія займаліся беларускаю царкоўнаю гісторыяю. Магчыма дзеля гэтага аўтар залічыў да выдатных расейскіх дзеячоў і сьвятых з XIII веку ўсіх выдатных беларусаў, а потым з гэтага зрабіў такі высновак (на с. 130), што ня было вялікіх беларускіх сьвятых.

Відаць дзеля гэтае самае прычыны аўтар ня ўзглядніў таго факту, што на Беларусі супрацьлацінскія настроі зьявіліся зусім з іншых крыніц, як у Расеі, бо Беларусь ніколі ня была пад татарскім панаваньнем і дзеля гэтага на Беларусі не татары, але крыжаносцы, як прадстаўнікі лацінства, сваімі войнамі выклікалі варожасьць да сябе і да свае веры. Аўтар аб гэтым напэўна добра ведае, бо ў 1936 г. выдаў паважную монографію аб царкоўнапалітычных зьменах на абшары ўсходняе Прыбалтыкі — дзіўна, што цяпер ня выкарыстаў сваіх папярэдніх досьледаў. Пры гэтай нагодзе варта зьвярнуць ўвагу на такое няпраўдзівае цьверджаньне аўтара быццам: «увесь «рускі» народ свае істотныя своеасаблівасьці заўдзячвае татарам» — уагульніваць гэткага цьверджаньня аніяк нельга, а тымболыш у гэткім значэньні слова «рускі» браць у двукосьсе, каб праз гэта адносіць яго да ўсіх усходніх славянаў.

Гаворачы аб «рускіх» цэнтрах у XII веку, зусім не ўспамінаецца аб Полацку — гэта сапраўды недагляд слана.

Шкода, што аўтар трымаецца расейскае гіпотэзы, быццам Русь распалася пасьля ўпадку Кіева і што быццам ўсходне-славянскія народы утварыліся толькі ў XV в. У сапраўднасьці гэты падзел адбыўся ў дагістарычных часох і якраз адным з найважнейшых матываў, які спанукаў сьв. Уладзімера прыняць хрысьціянства, было тое меркаваньне, каб хрысьціянскаю вераю сцэмэн-

таваць у адну суцэльнасьць усе тыя розныя славянскія народы, якія яму ўдалося заваяваць. Ён бачыў, што ніводная паганская рэлігія, ані іхняя сумесь, якую ён стараўся стварыць, арганізуючы ў Кіяве паганскі пантэон, да гэткае мэты не надаецца. Праўдай можа быць у расейскай гіпотэзе толькі тое, што сучасныя назовы ўсходніх славянаў, якія некалькі раз мяняліся, пачалі канчаткова фіксавацца ў XV в. Якраз гэты факт зьмены назоваў змушае аўтара часта браць старыя іменныя назовы народаў у двукосьсе, каб не адступаючы ад ужыванае раней тэрміналёгіі, не ўвайходзіць у супярэчнасьць з праўдаю. Аднак не заўсёды гэта аўтару ўдаецца і часам чытач даведаецца, што былі «праваслаўныя беларусы і літоўцы» (с. 256).

Памылковым ёсьць цьверджаньне, што Сымон Полацкі паходзіў з украінскіх земляў; хіба-ж Полацк знайхдзіцца на украінскіх землях?

Адносна Францішка Скарыны так-жа паданыя факты ня зусім згодныя з праўдаю, бо Скарына ў Кракаве атрымаў толькі бакалаўрат, а дактарат атрымаў у Падуе 9. XI. 1512 г. і дзейнасьць гэтага вучонага мела большае значэньне, як гэта выдаецца аўтару.

З іншых драбнейшых недакладнасьцяў варта зацеміць, што: каталіцкія экзархаты для Беларусі, Валыні і Украіны былі створаны не падчас нямецкае акупацыі, але крыху раней у 1940 г.

Адносна ролі варшаўскага мітр. Дзяніса ў жыцьці Украінскае Праваслаўнае Царква, дык аўтар, відаць, паблытаў імёны, кажучы, што мітр. Дзяніс змог заснаваць «аўтаномную Царкву на чале з яп. Аляксеям (с. 625). У сапраўднасьці аўтаномную Укр. Царкву заснаваў арх. Аляксей (Грамадзкі) на саборы япіскапаў у Пачаеве і абвесьціў гэтую аўтаномію 18. VIII. 1941 супраць волі мітр. Дзяніса. Адказам на гэты акт быў дэкрэт м. Дзяніса з дня 24. XII. 1941 аб назначэньні арх. Палікарпа «Тымчасовым Адміністратарам Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы на вызваленых землях Украіны».

У адмену ад беларускае бібліяграфіі, бібліяграфія датычна украінскага рэлігійнага жыцьця даволі багатая, але чамусьці не ўспамінаецца вельмі вартасная для абгавораванае тэмы кніжка у нямецкай мове Эд. Вінтера — «Бізантыя і Рым у змаганьні за Украіну». Ляйпцыг 1942 г.

Чамусьці мітр. Язон Ю. Смогожэвскі ўсюды пішацца Сморгошэвскі.

Гаворачы аб некаторых расейскіх сэктах, як хлыстох, скапцох і інш. падаюцца толькі самыя назовы гэтых сэктаў, без дакладнейшых паясьненьняў.

Вельмі пабежна ўспамінаецца аб сучасных экзархатах Маскоўскага Патрыярха і зусім не ўспамінаецца аб самаліквідацыі абнаўленцаў, а гэта вельмі важны факт для сучаснае савецкае «Праваслаўнае» Царквы, бо якраз туды перайшлі ў 1943-1944 гадох усе абнаўленцы.

Гаворачы аб зьмене савецкае палітыкі ў адносінах да Праваслаўнае Царквы, варта было-б ясьней падчыркнуць, што ў корані гэтае зьмены ляжыць новы спосаб бальшавіцкае барацьбы з рэлігіяй і Царквой, апаноўваючы яе кіраўніцтва і потым развальваючы яе з нутра. Калі сёньня даюцца нейкія «новыя магчымасьці дзеяньня» для Праваслаўнае Царквы ў СССР, дык гэта ёсьць магчымасьці прапагаваць нянавісьць да каталіцызму і славіць Савецкі Саюз — гэта быццам дзьве найгалоўнейшыя догмы савецкае Царквы, якімі ўвесь час займаецца «Журнал Маскоўскае Патрыярхіі» і савецкія ерархі ў сябе ўдома і на міжнароднай арэне.

Уканцы аднак трэба заўважыць, што ўсе гэтыя ўвагі адносна «Усходне-славянскае царкоўнае гісторыі», незалежна ад таго, як іх ацэньваць, ці больш, ці менш важнымі, не пазбаўляюць самога твору, ягонае вялікае вартасьці.

**а. Л. Гарошка.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### ПРАДАЎЖЭНЬНЕ СЬВЯТОГА ГОДУ.

Пасля закрыцьця Сьвятога Году ў Рыме і замураваньня сьвятых дзьвераў у галоўных рымскіх базыліках Сьвяцейшы Айцец Пій XII выдаў булью аб прадаўжэньні Сьвятога Году на ўвесь сьвет на працягу 1951 г. Адносна атрыманьня сьвятагодніх адпустаў выдалі адпаведныя распараджэньні мясцовыя біскупы.

### СЬМЕРЦЬ КАРДЫНАЛАЎ.

Дня 21-XII-50 памёр бэрлінскі кардынал Я. Эм. Конрад фон Прайсінг, а 14-I-51 памёр дэкан кардынальскае калегіі Я. Эм. Францішак Маркетті-Сальваджяні. Цяпер у кардынальскай калегіі асталося толькі 50 чалавек і ёсьць вольных 19 кардынальскіх мейсц.

### ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА ЗЛУЧЭНЬНЕ ЦАРКОЎ.

Штогод Каталіцкая Царква ў студзені між 18 і 25 арганізуе Тыдзень Малітвы за злучэньне Царкоў. З гэтае нагоды сёлета дня 21 студзеня ў парыскай катэдры Нотр Дам адслужыў урачыстую Службу Божую яго блажэнства сірыйскі патрыярх Максім IV Саіґ у саслужэньні 2-х сірыйскіх біскупаў і 8 сьвятароў з каталіцкіх місіяў бізантыйскага абраду ў Парыжу розных на-

цыянальнасьцяў: беларускае, грэцкае, расейскае, румынскае і украінскае. Гэтая урачыстая Служба Божая была тэлевізаваная Парыскім Радыё.

### БЯЗБОЖНАЯ ПРАПАГАНДА.

Камуністычная маскоўская газета «Правда» паведамляе, што сёлета на пачатку лютага цэнтральны камітэт маскоўскае камуністычнае партыі прызнаў, што ягоная праца адносна змаганьня з «рэлігійнымі перажыткамі» была нездавальняючая і дзеля гэтага намеціў на бліжэйшую будучыню новую праграму супрацьрэлігійнае дзейнасьці, якая мае ахопліваць бязбожныя канфэрэнцыі, адчыты і розныя агітацыйныя выдавецтвы.

### ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ У ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ ПАГАРШАЕЦЦА.

Чэхаславацкі камуністычны урад пастанавіў за ўсякую цану зьнішчыць усякі супрацію Каталіцкае Царквы ў сваіх межах, пазбаўляючы яе ў першую чаргу праўамоцнае ерархіі. Пасьля засуджаньня і ўвязьненьня найбольш актыўных біскупаў урад самавольна назначае на біскупскія пасады адміністратараў спаміж т. зв. «прагрэсіўных сьвятароў», звычайна абложаных рознымі царкоўнымі карамі і гэтым выклікае вялікае замяшаньне ў вернікаў. Як паведамляюць з Ватыкану, цяпер у Чэхаславаччыне знайходзіцца ў турмах каля 2-х тысяч каталіцкіх сьвятароў.

### СТАНОВІШЧА ФІНЛЯНДЗКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ.

Яшчэ ў 1945 г. дэлегацыя Маскоўскага Патрыярха была адведала Фінляндыю з мэтаю узалежненьня Фінляндзкае Прав. Царквы ад Маскоўскага Патрыярхату. Ведама што Фінляндзкая Прав. Царква мае сваю аўтакефалію ад 1920 г. прызнаную Бізантыйскім Патрыярхатам у 1923 г., але зусім ня прызнаную Маскоўскім Патрыярхатам. Дзеля гэтага на маскоўскія прапановы фінляндзкія ерархі адклікаліся да Бізантыі, а ўканцы 1950 абвесьцілі, што яны і далей астаюцца аўтакефальнымі пад пратэкцыяй Бізантыйскага Патрыярхату. Гэта адзіная з Праваслаўных Царкоў у сфэры савецкіх уплываў, якая адважылася на такі крок.

### ПАТРОН ТЭЛЕГРАФІСТАЎ І ТЭЛЕФОНІСТАЎ.

Сьв. Кангрэгацыя Абрадаў нядаўна абвесьціла архангела Гаўрыіла патронам для тэлеграфістаў і тэлефаністаў.

### УЗГАДАВАНЬНЕ МОЛАДЗІ У ЮГАСЛАВІІ.

Бязбожная прапаганда ў Югаславіі і на далей захоўвае свой ваюючa-бязбожніцкі характар. Нядаўна на паседжаньні цэнтральнага камітэту Югаслаўскае Арганізацыі Моладзі старшыня гэтае арганізацыі М. Нэоріціч заявіў, што «Царква ёсьць найгоршым ворагам моладзі».

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Перамяшчэньні савецкіх ерархаў.

«Журнал Маскоўскае Патрыярхіі» з лістапада 1950 г. падае кароценькую зацемку, што яп. Паісія, які быў на пакоі, назначана япіскапам Пінскім і Лунінецкім. Нічога ня кажацца, дзе дзеўся арх. Даніїл (Юзьвюк) Пінскі і Палескі, які рэпытрыяваўся з Аўстрыі ў 1946 г. У сьнежанскім нумары ЖМП так-жа ніякіх вестак аб арх. Даніїле няма, відаць ён трапіў у няласку. Нованазначаны Пінскі яп. Паісій (Образуев) родам з Тамбоўшчыны, хіратанізаваны толькі ў 1944 г. на яп. Берасьцейскага і ўжо за гэты кароткі час перамяшчаецца аж **сёмы раз.**

### Вылюдненьне.

Кароткая зацемка, аб масавым вылюдненьні Беларусі, якая была падана ў Нр. 31-32 нашага часапісу атрымоўвае штораз новыя падцьверджаньні. Нядаўна ў Парыжу выдана ў францускім перакладзе ўспаміны быўшага гішпанскага камуністычнага гэнэрала Валентына Гонзалез, які піша пад псэўдонімам Эль Кампэсіно — «La vie et la mort en U. R. S. S.». (Жыцьцё і сьмерць у СССР). Гэн. Гонзалез пасьля гішпанскае дамовае вайны быў уцёк у Савецкі Саюз, а потым там трапіў у няласку і скаштаваў савецкага «раю» на Варкуце і ў іншым канцлягэрах. У 1949 г. яму ўдалося ўцячы. У сваіх успамінах Гонзалез гаворыць і аб Беларусі на стар. 92 і 104. Ён кажа, што з усіх савецкіх рэспублік Беларусь пацярпела ад НКВД найбольш. У гадох 1944-46 на Беларусі адбыліся тры вялікія чысткі насельніцтва. У 1944 г. чысьцілі пад закідам шпіянажу і пераважна растрэльвалі. У 1945 г. вышуквалі «здраднікаў» бацькаўшчыны і вывозілі ў Сібір. Найбольш лютая чыстка адбылася ў 1946 г., ў часе якое шмат было вывезена ў Сібір і шмат разьмешчана ў мяйсцовых канцэнтрацыйных лягерах. Ад гэтае чысткі мала хто ўцалеў. Цяпер на Беларусі ёсьць шмат канцэнтрацыйных лягэраў; з больш ведамых аўтар называе лягэры ў ваколіцах: Менска, Рагачова, Каленкавіч, Крычава, Баранавіч і Глыбокага.

## АРГЕНТЫНА.

### Вечар Беларускае Калёніі ў Буэнос-Айрэс.

Управа Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне ладзіла дня 13-І г.г. вечар Калядаў і спатканьне Новага Году.

Акрамя сяброў Згуртаваньня на Вечары ўдзель-



**Горадня перад другою сусьветнаю вайною.**

нічала шмат госьцяў так з новае, як і з старое эміграцыі. Распачаўся Вечар прывітальнаю прамоваю старшыні Згуртаваньня К. Мерляка, пасьля чаго адбылося спажыцьцё традыцыйнае вячэры, а ў міжчасе на сцэне выконвалася мастацкая частка Вечара, на праграму якое злажыліся: «Рарыёперадача на Бацькаўшчыну», у апрацоўцы Ул. Другаўца. Наступна ўдала былі выканаIIы Бычкоўскімі песьні: «На выгнаньні» і «Нёман». Цалей выступалі: хор пад кіраўніцтвам І. Гэйхроха, дуэт А. Грынкевіча і М. Бычкоўскай, ды А. Грынкевіча і Л. Дземідзенко. Асабліва цепла быў стрэнуты слухачамі выступ маладых беларускаў, народжаных ужо ў Аргэнтыне: Соні Хрол і Элізы Лойко, якія вучацца ў Аргэнтынскай Кансэрваторыі. Яны выканалі дзьве аргэнтынскія песьні пад гучныя воплескі слухачоў. У міжчасе прадэклямавана вершы: Ганна Мерляк — «Мацеры» і Г. Юзэфовіч — «Беларусь перадусім». На заканчэньне балетная група пад кіраўніцтвам Ул. Катовіча выканала некалькі сваіх нумароў.

## БЯЛГІЯ.

### Агульны Зьезд СББ.

Сёлета дня 4-га лютага адбыўся, ў Лювэне чарговы Агульны Зьезд Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. Распачаўся Зьезд Службаю Божаю, якую адправіў а. Аўген Смаршчок. Нарады Зьезду распачаліся папалудні справаздачаю старшыні СББ інж. Я. Жытко. Ён у сваёй справаздачы азначыў ня толькі асягненьні ў працы за мінулы год, але і нястачы. У дыскусіі над справездачай намечана вытычныя для пляну працы на бягучы год.

Пасьля абсалюторыі з падзякай для ўступаючае ўправы, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня інж. Я. Жытко, заступнік старшыні — В. Кіпель, сакратар — Т. Мазура скарбнік — В. Рамук, сацыяльны рэфэрэнт — а. А. Смаршчок.

Уканцы пасьля вольных прапановаў ўложана плян працы і прынята рэзалюцыі аб ідэалягічным становішчы СББ.

З нагоды Зьезду студэнцкі хор пад кіраўніцтвам кампазытара М. Равенскага наладзіў канцэрт беларускіх народных песьняў.

## ВАТЫКАН

### Радыёвы канцэрт

Ватыканская Тэлевізыйная станцыя ладзіла сёлета 9-І міжнародны сьпявацкі канцэрт. На ім ад беларусаў выступаў ведамы бас Пётра Конюх, здабываючы адну з лепшых ацэнаў у кіраўнікоў канцэрту. Найбольш чаравала слухачоў беларуская народная песьня «Што за месяц».

## З. Ш. А.

Стараньнем Аб'еднаньня Праваслаўных Беларусаў у З.Ш.А. арганізуецца першая беларуская праваслаўная парахвія ў З.Ш.А., якая мае падлягаць

юрысдыкцыі арх. Міхаіла — Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха.

### З дзейнасьці Б-А. Н. Р.

Найстарэйшая беларуская арганізацыя ў Амэрыцы Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкаго на сваім гадавым Сходзе 3-XII-51 пeрвавыбрала сваю ўправу і намеціла плян працы на бягучы год, якая мае быць значна зактывізаваная ў параўнаньні да мінулых гадоў. Ужо ад 1-I г.г. пачаў выходзіць на рататары часапіс «Весткі Б.-А. Н. Р.».

### Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

У днёх 17-18 лютага г.г. адбыўся ў Нью-Ёрку першы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, на якім удзельнічала 48 дэлегатаў з адзьдзелаў: Чыкаго, Кліўленд, Спрынгфільд, Нью-Ёрк-Мангэттэн, Нью-Ёрк-Мэспэт, Бруклін, Дэтройт, Джэрсі-Сіты, Ньюарк. Акрамя таго былі прысутныя шматлікія госьці між якімі былі карэспандэнт «Таймса» і карэспандэнт «Словак в Амэрыкэ», якія потым падалі ў сваіх газэтах весткі аб Кангрэсе і Беларусі.

На Кангрэсе было прынята цэлы рад важных рэзалюцыяў, як вытычных для Ўправы Б.-А. З. Уканцы былі высланы прывітальныя тэлеграмы: прэзыдэнту Труману, губэрнатару штату Нью-Ёрк і бургомістру гораду Нью-Ёрк — Імпэльлітэрі.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Выстаўка беларускага друку.

У пераходным лягэры Куксгафэн у днёх 20 і 21 студзеня г.г. стараньнем Беларускае Бібліяграфічнае Службы ладзілася выстаўка беларускага друку на эміграцыі. З гэтае нагоды ф-йн Бэрнард прачытала рэфэрат: «Беларусы ў змаганьні за волю». Выстаўку аглянула 1.300 чалавек у тым ліку і карэспандэнты мяйсцовых нямецкіх газэтаў, якія потым зьмясьцілі ў «Куксгафэнэр Прэсэ» і «Куксгафэнэр Рундшаў» вялікія артыкулы аб Беларусі.

### Сьмерць мітр. Панцялеймана.

Былы галава Беларускае Праваслаўнае Царвы мітр. Панцялейман Ражноўскі памёр 30-га сьнежня 1950 г. у лягэры Фэльдмохінг ля Мюнхэну і пахаваны на мяйсцовых могілках. Покойны ад 1945 г. перайшаў да Расейскае Праваслаўнае Зарубежнае Царквы, але ўвесь час не зракаўся тытулу мітрапаліта Менскага і ўсяе Беларусі.

### У лягэры Фэльдмохінг.

Вялікі лягэр для перамешчаных асобаў у Фэльдмохіне ля Мюнхэну ўважаўся міжнародным, але да нядаўна там усе кіраўнічыя становішчы займалі расейцы. Гэткі стан рэчаў апрабавала мяйсцовая ўлада ІРО. Але нядаўна зьмяніўся старшыня мяйсцовага ІРО і гэтым разам іраўскія ўлады ўзгляднілі справядлівыя дамаганьні ўсіх нацыянальнасьцяў Фэльдмохінскага лягэру, дазваляючы кожнай з іх мець свой нацыянальны камітэт і прадстаўніка ў лягэрным камітэце. У выніку гэтага беларуская група, якая ў Фэльдмохіне нарахоўвае 150 чалавек на сваім агульным сходзе выбрала мяйсцовы беларускі камітэт з Б. Дубоўскім на чале і адначасна яго-ж упаўнаважніла быць прадстаўніком ад беларусаў у лягэрным камітэце.

## ФРАНЦЫЯ.

### Гадавы Сход.

Дня 11-га лютага г.г. у салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу адбыўся гадавы сход Парыскае Філіі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі. Справаздачы старшыні Рэвізійнае Камісіі і старшыні ўправы выказалі, што акрамя чыста прафэсійнае працы АБРФ ладзіла з уласнае ініцыятывы і сумесна з іншымі арганізацыямі рэфэраты, акадэміі і інш. Пасьля дыскусіі над справаздачамі выбрана новую ўправу, у такім складзе: старшыня — А. Яцэвіч, сакратар — М. Белькевіч, скарбнік — Я. Чыгір. Закончыўся Сход агульным адсьпяваньнем песьні «Беларусь наша маці краіна».

### Заклік АБРФ філіі Ля Крэзо.

Беларусы з Ля Крэзо і ваколіц ужо доўгі час успамагалі, як маглі, свайго цяжка хворага сябру Фр. Рашкевіча. Апошнім часам на дапаўненьне няшчасьця цяжка захварэла жонка Рашкевіча і асталіся без бацькаўскае апекі двое іхных дзяцей. У гэткім цяжкім палажэньні невялікая група беларусаў у Ля Крэзо ня ў сілах даць адпаведную помач. свайму сябру і дзеля гэтага зьвяртаецца да ўсіх Беларусаў у Францыі; паматчы хто чым можа свайму суродзічу ў цяжкім няшчасьці. Ахвяры найлепш слаць праз Беларускую Грамадзкую Апеку пры Беларускай Рэлігійнай Місіі ў Парыжу на адрас: **Chèque Postal : Paris c. 62 87 44, R. P. Horoško Leo, 95, rue de Sèvres, *Paris VI*e.**

---

### «ЛЮТЫ» МЕСЯЦ.

Сёлетні люты стаўся сапраўды лютым месяцам для тых нямногіх беларускіх каталіцкіх сьвятароў, якія ёсьць на эміграцыі. Дня 1-га лютага мусіў пайсьці на апэрацыю рэктар Беларускае Каталіцкае Місіі ў Лёндане а. д-р Ч. Сіповіч. Тыдзень пасьля ў Францыі а. Фр. Чарняўскі толькі вялікім шчасьцем астаўся пры жыцьці ў няшчасным выпадку з аўтам але цяпер залечвае ў шпіталі зломанае рабро і пашкоджаную скуру на чале. У Рыме а. д-р. П. Татарыновіч адляжаў больш тыдня цяжкую грыпу. Вялікае Дзякуй Богу, што ўсе гэтыя выпадкі скончыліся шчасьліва!

Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

**На фонд «Божым Шляхам» і на Выдавецкі Фонд «Добрае Кніжкі» прыслалі за апошніх 3 месяцы:**

Азарко І. 350, Асіпчык А. 350, Багушэвіч В. 475, Баяроўскі М. 565, Буйвіла Я. 500, Буткевіч С. 475, Віценчык М. 700, Вострыкаў (група з Бэльгіі) 2.000, Гасьцееў Ю. 250, Грынкевіч 700, Даніловіч Б. 700, Дарошэвіч М. 1.725, Дэмковіч Т. 475, Елешэвіч П. 600, Захарэвіч І. 250, Лабэцкі А. 238, Лазоўскі Л. 475, Лобач 350, Лось Г. 475, Мазура Х. 500, Мурашка Ю. 500, Машонскі 350, Новак М. 350, Н. Н. 3.000, Нагорны Б. 250, Пузоўскі З. 250, Пэшэрскі М. 750, Пячонка Л. 475, Рамановскі Я. 500, Р-ко А. 200 Саўко В. 475, Сенкевіч Г. 475, Скабей 2.400, Смаршчок М. 700, Трэйго Ф. 455, Чарнэцкі Я. 800, Ч. Ф. 2.000, Шастак М. 565, Шашылоўская А. 475, Шведзюк 238, Янцэвіч К. 238, Яраш 400, Яцкевіч Г. 500, Яцкевіч Д. (група з Аўстраліі) 2.904.

## АТРЫМАНА

**За мінулы год рэдакцыя атрымала ў форме вымены наступныя газэты і часапісы:**

Аб'еднаньне Нр. Нр. 1-12.
Бацькаўшчына Нр. Нр. 61-64.
Баявая Ускалось Нр. 3.
Беларус Нр. Нр. 1-2.
Беларус на чужыне Нр. 18.
Беларускае Слова Нр. Нр. 13-14.
Беларускі Патрыёт Нр. Нр. 1-2.
Беларускі Эмігрант Нр. Нр. 1-11.
Бюлетэнь БННХР Нр. 1.
Вольнае Слова Нр. Нр. 1-5.
Змагар Нр. 3.
Інфармацыйны Бюлетэнь САБЭ Нр. 1-5.
Інфармацыйны Бюлетэнь ОББ Нр. 1-9.
Моладзь Нр. Нр. 16-20.
Мэдычная Думка Нр. 3.
На шляху Нр. Нр. 9-11.
Новае жыцьцё Нр. 5.
Патрыёт Нр. Нр. 4-5.
Рунь Нр. 1.
Скаўцкая Інфарм. Служба (СІС) Нр. Нр. 18-20.
С І С Нр. Нр. 18-19 (4-5).
Шыпшына Нр. Нр. 8-9.
Вістник (Парыж) Нр. 60.
Вістник (Торонто) Нр. Нр. 1-24.
Вісті Нр. Нр. 1-24.
Канадийський Ранк Нр. Нр. 695-719.
Народне Слово Нр. Нр. 1-50.
Слідами малої святої Нр. Нр. 9-12.
Українець-Час Нр. Нр. 1.47.
Україна Нр. Нр. 1-3.
Українськький голос Нр. Нр. 1-52.
Шлях Нр. Нр. 1-53.
Наш Приход Нр. Нр. 7-8.
Православный Белорусс Нр. Нр. 9-12.

Oriente Nr. 37-41.
Christianitas Nr. Nr. 5-7.
Der Christliche Sontag Nr, Nr. 13-50.
Katholischer Digest Nr. Nr. 1-12.
Newsletter from behind the iron curtain Nr. Nr. 156-206.

**Атрыманыя кнігі:**

Сымн Брага — Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага Беларускага народу. Выданьне «Ускалось» 1950 г. ф. 8°. Стр. 15.

Ніна Змагарка — Памятай Бацькаўшчыну! Выданьне «Ускалось» 1950 г. ф. 16°. Стр. 16.

Пракоп Каваль — Беларусь у датах, ліках і фактах. Выданьне «Моладзь». Парыж — 1950 г. ф. 4°. Стр. 68.

— Кніга ахвяраў бальшавізму. Кн. І. Выданьне С.Б.Ж. 1950 г. ф. 8° стр. 23.

— Архипастир скитальників. Рим-Париж. ф. 8°. Стр. 62.

— Ватикан і Українці — Париж 1950. ф. 16° Стр. 46.

о. Іван Яцків — Основні правди християнської віри. Рим-Париж 1950 г. ф. 8°. Стр. 76.

Mikola Abramcyk — I accuse the Kremlin of genocide of my nation. Torono 1950. f. 8° Str. 36.

— Human rigts and genocide in the Baltic states. Stockholm 1950. f. 8°. Str. 57.

Jean Mauclère — La situation de l'Eglise Catholique en Lithuanie. Le Raincy. 1950 f. 16°. Str. 28.

A. M. Amman — Ostslawische Kirchengeschichte. Wien 1950. f. 8°. Str. 764.